Серыя заснавана ў 2013 годзе

Распрацоўка серыі *Алены Масла*

Афармленне серыі *Маі Пракаповіч*

*Для дашкольнага ўзросту*

**Барадулін, Р.**
Б24 Сябрына : вершы : для дашк. узросту / Рыгор Барадулін ; маст. Мая Пракаповіч.— Мінск : Маст. літ., 2013.— 24 с. : іл.

ISBN 978-985-02-1393-8.

Новая серыя кніг «Нашым дзеткам» адрасуецца самым маленькім і адкрываецца цудоўнымі вершамі для дзяцей народнага пісьменніка Беларусі Рыгора Барадуліна.

**УДК 821.161.3-93**
**ББК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-02-1393-8**



*Рыгор Барадулін*

# Сябрына

Вершы

Мінск
«Мастацкая літаратура»
2013





Пакуль на працы гаспадары,
Сабраліся паразважаць
У двары
Сябры.

# Казёл

З мяне ні малака, ні воўны,
І ўпарты я, і памяркоўны.
Мне ў школе быць,
Як у турме.
Гарод штодня ў мяне наўме.
Ты навакол пільней зірні —
Убачыш шмат маёй радні.









# *Каза*

Любую цяжкую задачу
Рагамі з ходу растлумачу.
Хай тугадум перапытае,
Ператлумачу капытамі.

Найлепш за ўсё любой казе
На градках з морквай
Ці ў лазе.







## Певень

Без пеўня
Дзень настаць не можа.
Я сонца клічу ў падарожжа.
Цераз раку,
Як сябруку,
Шлю дню сваё кукараку.
Я мог бы ў небе быць арлом,
Ды ноч трымаю пад крылом.





# Курка



Невясёлы мой занятак —
Цяжка пасвіць куранятак.
Уцякае певунок:
— Не спяшайся ў суп, сынок.
Я ганюся за дачушкай:
— Ты паспееш стаць падушкай.
А за мной цікуе Мурка,
Шэпча:
— Пасябруем, курка.

# Свіння

Рох-рох,
А я лічу да трох,
Нікога не пушчу ў бярлог.
Не можа быць іначай
З натураю свінячай.
Я ўсё на свой з'іначу лад,
Паўсюль
Маіх сябровак шмат.



# Авечка

Я — ціхая авечка,
З мяне кажух і свечка.

Я мекаю ды бекаю,
Пакуль не раскумекаю,
Што лепей быць авечкаю,
Чым кажухом і свечкаю.









# Баран

Я дакажу,
Што ў барана́
Ёсць звіліна і не адна.
Хай на рагах,
Затое ўсім
Відаць,
Што мудры я зусім.
Ваўку салодка жыць было б,
Калі б не мой рагаты лоб.

Сябе хвалілі
Як маглі.
А ноч настала —
Спаць пайшлі.




Літаратурна-мастацкае выданне

**БАРАДУЛІН** Рыгор Іванавіч

НАШЫМ ДЗЕТКАМ

СЯБРЫНА

*Вершы*

Рэдактар *А. С. Масла*
Мастацкі рэдактар *Н. В. Барай*
Тэхнічны рэдактар *В. Ю. Серчанка*
Стылістычны рэдактар *А. М. Анцытовіч*

Падпісана да друку 29.12.2012. Фармат $84 \times 90^{1}/_{16}$.
Папера мелаваная. Гарнітура FuturaBookC. Афсетны друк.
Умоўн. друк. арк. 2,1. Улік.-выд. арк. 2,61.
Тыраж 2500 экз. Заказ 3639.

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494049 ад 03.02.2009.
Пр. Пераможцаў, 11, 220004, Мінск.
www.mastlit.by; e-mail: mail@mastlit.by

ТАА «Артыя Груп». ЛП № 02330/0150047 ад 05.03.2008.
Вул. Кастрычніцкая, 19, 220030, Мінск.
www.artia.by

